Няхай жывье саюз рабочых і вялян.

# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ

двухтыднёвы літаратурна-мастацкі дадатак да „Беларускай Вёскі“

№ 2 2-га лістапада 1926 г. № 2



Уладзімер Дубоўка

## Літаратурная творчасьць сучаснай беларускай вёскі*)

У першым нумары „Чырвонага Сейбіту“ А. Бабарэка ўзьняў вельмі грунтоўнае пытаньне—аб культуры мастацтва. Чытачы „Беларускай Вёскі“ пэўна ўважна прачыталі гэты артыкул і зьвярнулі ўвагу на такое месца.—„І сілы народныя не абмінулі й таго, каб выявіцца і ў мастацкай творчасьці, у пісаньні вершаў, баек, апавяданьняў і інш. Цэлыя горы такіх вершаў, што надсылаюцца ў рэдакцыі з беларускіх вёсак, кажуць аб вялікім уздыме сялянскай моладзі і вялікім яе імкненьні да творчасьці, імкненьні сваё сілы і энэргію аддаць на агульную справу будаўніцтва новага жыцьця і культуры“...

Нядаўна я перачытаў больш 200 вершаў, якія прысланы за апошнія тры месяцы ў „Беларускую Вёску“ і засталіся нявыдрукаванымі. Я выкажу тыя думкі, якія ўзьбеглі пры чытаньні гэтых вершаў.

Калі паўстае гутарка аб літаратурнай творчасьці сучаснай беларускай вёскі —менавіта літаратурнай, а ня вуснай,—думаецца спаткаць у ёй самабытнае і ўва ўсіх адносінах—у адносінах тэматык, у адносінах формы. Але дарэмна—аўтары прысланых вершаў, людзі пісьменныя, часам працаўнікі розных мясцовых устаноў,—сочаць за друкам, чытаюць выдрукаваныя ў газэтах і паасобных зборніках творы і адгукаюцца па іх насьледаваньнямі. Насьледаваньні бываюць поўныя і частковыя (перэробка выдрукаваных вершаў паводле ўласнага густу).

Зусім нязначная частка дае творы цалкам самастойныя. Гэта апошняя частка падзяляецца ў сваю чаргу на дзьве—творы простыя, шчырыя і творы з імкненьнем да нейкіх мудраваньняў.

Пераважная большасьць разгледжаных твораў вызначаецца сваёй няшчырасьцю, сваёй падробленасьцю да сёнешняга дню. Аўтар разважае: надыходзіць сьвята ўраджаю, або гадавіна Кастрычніка. Патрэбен матар'ял. За два тыдні да гэтага шле ў рэдакцыю свае творы з прыпіскай: „гонарар вышліце на адрас такі-і-такі“... Некаторыя далучаюць: „фотографічную картку магу выслаць зараз-жа“.

Гэтыя прыпіскі найменшым чынам характарызуюць пададзеную вышэй думку. Прынцыпы некаторых пісьменьнікаў: „не тварыць, а пісаць па заказу“—добра прышчапіліся ў ваколіцах нашае сталіцы. Дарэчы—з 62 аўтараў 47 з Менскай акругі.

Гэта яшчэ нічога. Але, як пішуць? з аднаго вершу,—„я даўно чакаю сьвята ўраджаю“—прыходзіцца зрабіць такі вывад, што сялянства паляпшае сваю гаспадарку выключна для таго, каб атрымаць прэміі за лепшыя экспонаты.

Бадай, што чацьвертая частка ўсіх вершаў прысьвечана апісаньню п'янства і яго вынікаў у розных праявах.

Ніхто не адмаўляе—п'янства прыносіць шмат шкоды. Не кажучы аб тым,

*) Ад рэдакцыі: У бліжэйшых нумарох „Чырвонага Сейбіту“ будзе зьмешчаны артыкул прысьвечаны агляду выдрукаваных твораў маладых пісьменьнікаў, а таксама наконт нявыдрукаваных апавяданьняў. Рэдакцыя просіць чытачоў газэты пісаць лісты наконт гэтага артыкулу. Пажадана, каб у лістох былі, такія думкі—ці згаджаецеся з гэтым артыкулам, калі не згаджаецеся—чаму; якія пытаньні трэба высьвятліць больш і г. д.

што гарэлка руйнуе гаспадаркі, даводзіць некаторых да торбы,—яна-ж выклікае бойкі, забойствы і інш. Але-ж на гэткія тэмы лепш пісаць звычайныя допісы, з паказаньнем самагоншчыкаў, карчмароў, з паказаньнем найбольш выяўленых п'яніц. Тады будзе нейкая карысьць. А якая карысьць будзе ад таго, калі чытачы газэты прачытаюць дрэнны верш з апісаньнем выпіўкі і бойкі? На мой погляд—ніякай.

Адзін толькі аўтар—А. Наркевіч—падышоў да пытаньня пановаму: „Чаму гарэлку п'е мужык" завецца яго верш. Трэба гаварыць не аб выніках, а аб прычыне. Вырашыўшы гэта пытаньне пасвойму, даволі цікава, ён не здавальняецца гэтым, а канчае верш так:

Крапіва, Купала добра знаюць
Мужыцкі нораў і навык.
Няхай яны таксама скажуць
„Чаму гарэлку п'е мужык".

Будзем спадзявацца, што нашы поэты адгукнуцца на гэты заклік, а пакуль што далей.

Другая частка прысьвячае свае творы апісаньню розных жыцьцёвых нягод: хваробы, ашуканства, дрэнныя працаўнікі. Ізноў-ж, апісваецца гэта такім чынам, што выклікае запытаньне: навошта патрэбны такія вершы? Адказ таксама ў прыпісцы: „гонорар вышліце"...

Нават прыпеўкі («частушкі»), якія так цікавы, калі запісаны ад сапраўдных вясковых поэтаў, дзівяць сваёй няшчырасьцю. Адзін аўтар дае рэкляму для газэты:

Я ў вечары паеду
Узару палоску.
А на заўтра пайду
Выпішу «белвёску».

Якая працавітасьць! Добрыя людзі аруць днём, а ён увечары.

С. Ярмак піша верш, у якім дзякуе вёску за тое, што яна ўзгадавала яго „мастака"—

Што даруеш свае ты мне песьні
Старых хат і ваколіц сваіх.
Бурапенным жыцьцём на прадвесьні
Ты ўзбантарыла думкі мае.

Падобнае ў некаторых вершах выказваецца іншым чынам. В. Казлоўскі піша:

У выбоіны цёплай душы
Вылівала ты крыўду сваю...

У агуле прыходзіцца характарызаваць творчасьць большасьці як водгульле на творчасьць друкаваную, як водгульле на газэтныя кампаніі. Самабытнага, сьвежага, што ішло-б ад народных крыніц бадай няма.

І толькі нязначная частка дае вершы, якія хоць і не заўсёды годны да друку, але даваляюць спадзявацца, што пры належным сваім разьвіцьцём аўтары могуць сапраўды стаць на правільны шлях. Ня спыняючыся над аглядам іх творчасьці, абегла пералічу імёны: Х. Паўлоўскі, З. Жыткевіч, М. Богуш, Р. Бяжок, С. Багун, А. Наркевіч, Я. Беразоўскі, а асабліва—Р. Беразінская і Зося Пятроўская.

Паўстае запытаньне: няўжо на вёсках няма сапраўдных талентаў, сапраўдных поэтаў? Адказ адзін: бязумоўна ёсьць. Даволі ўспомніць высока-мастацкія казкі сабраныя Сяржпутоўскім, высока-мастацкія творы народнай вуснай творчасьці. Чаму-ж такія творы не пападаюць у рэдакцыю? А вельмі проста—вёска ў пераважнай большасьці няпісьменная, творы ў вёсках распаўсюджваюцца вусна. Яшчэ шмат часу міне, пакуль яны самі будуць прысылаць свае творы ў рэдакцыю. А да таго моманту ўважныя дасьледчыкі, як памянёны этнограф Сяржпутоўскі, або як дзяўчына Ганна Брэгман (з Мазыршчыны), якая прыслала цэлы сшытак запісаў народных песень, будуць загатоўваць іх у часе сваіх падарожжаў.

Яшчэ перад рэволюцыяй, у зборніку „Гусьляр", Янка Купала казаў:

Дайце разгону, прастору
Дрэмлючым песьням і сілам,—
Дрогне запор наймацнейшы,
Мы ўскалыхнём і магілай.

Наш час даў гэты прастор і даў гэты разгон песьням і сілам. Але ня ўсе сілы пазбыліся памежы. На нас ускладаецца абавязак дапамагаць абуджэньню. Якім чынам?

Рэдакцыя „Беларускай Вёскі" ўзяла правільны кірунак. У «Чырвоным Сейбіце» яна, праз артыкул А. Бабарэкі, тлумачыць маладым аўтарам, што праца ў галіне поэзіі вымагае сталага падыходу і сталых адносін. У далейшым трэба даць шэраг практычных парад наконт пісаньня вершаў, апавяданьняў і г. д. Пажадана, каб рэдакцыі ўважна сачылі за друкаваньнем літаратурнага матар'ялу, прымаючы пад увагу, што вясковыя песьняры глядзяць на гэты матар'ял, як на ўзор, вучацца на ім тварыць самі.

Лёзунг—трэба вучыцца і вучыцца ня новы, але ён вымагае адпаведных практычных мерапрыемстваў. Нельга вучыцца

на адным лёзунгу: трэба даць магчымасьці шляхам выданьня даступнай па цане і вартай па зьместу папулярнай літаратуры.

Выдавецтвы нашы павінны даць вёсцы некалькі выданьняў з выбранымі мастацкімі, лёгкімі па ўспрыманьні творамі выдатнейшых нашых паэтаў і пісьменьнікаў—Янкі Купалы, Якуба Коласа, Зьмітрака Бядулі, Крапівы.

Трэба раз на заўсёды адкінуць недарэчную тэорыю, што вёска нібыта не разумее мастацкіх твораў, а вымагае вузка-адмысловыя. Вёска не зразумее толькі такія творы, у якіх знаходзяцца незразумелыя ей чужаземныя словы і зьвязаныя з імі паняцьці.

Далей, трэба выдрукаваць некалькі папулярных кніжак аб поэзіі, аб мастацтве, аб паасобных пісьменьніках.

У будаўніцтве і разьвіцьці культуры гэта прынясе тую карысьць, што і чытачы і маладыя пісьменьнікі пачнуць ставіцца да літаратуры, да культуры стала, а ня лёгкаважна, як (з большага) зараз.

Адначасна трэба ўзмацняць працу па запісваньні сучаснай народнай творчасьці: казак, песень, прыпевак, бо якраз гэтыя творы, творы вусныя і зьяўляюцца сапраўдным паказчыкам культурнага становішча вёскі, яе імкненьняў, жаданьняў і думак.

28/X—26, Масква.

Я. Купала

# НІКОМУ

(Працяг)

IX

Малады на куце
Усеўся з маладой,
Побач—асыстэнты
Падрад чарадой.
П'юць, ядуць, гамоняць,
Смутку ані-ні,
Скрыпачка заводзіць,
Кліча да гульні.
Мілая пацеха
У вочах маладых
Сьвеціцца, як сонца.
Аж б'е жар ад іх.
Раптам—дзіва! з дзесяць
Панскіх гайдукоў
Улятае ў хату,
Як дзікіх зьвяроў.
— „Дзе,—крычаць,—Алена?
Маладая дзе?
Да сябе на гулі
Пан яе заве!"

X

Зьнямела дружына,
Зьнямеў малады,
Трэба ж, ня ставала
Гэтакай бяды.
Зналі, на якія
Гулі клікаў пан,
Што ўчыніць з Аленай
Распусны тыран.
Здрыгнуў Тамаш страшна,
Пабялеў як труп,
Слупам вочы сталі,
І сам стаў, як слуп.
На тое ж Алёнку
Узяў жонкай цяпер,
Каб над ёй глуміўся
Распасьвяны зьвер?!
І схапіў няшчасны
Точаны тапор,
Ажна ўсіх затрэсла
Жудасьць, як віхор.

XI

„Гэй, вы, служкі пана!—
Крыкне так Тамаш,—
Подлыя вы самі,
Падлейшы пан ваш!
„Гэй, скажэце, шэльмы,
Кату свайму там:
Ня дам яму жонкі,
На ганьбу ня дам.
„Хоць згнію ў вастрозе,
Ці ў віры на дне,—
Няхай-жа ня будзе
Ні пану, ні мне!"
І сякерай гахнуў,
Як вокам міргнуць,
Па абух ўпілася
У Аленіну грудзь.
Рухнула Алена
На дол бяз жыцьця,
Крывёй цёплай, сьвежай
Залітая ўся.

XII

Так зышло вясельле
Нашай маладой,—

Засыпалі грудзі
Зямелькай сырой.
Над яе магілкай
Праз доўгія дні
Вырас клён і ліпа
Роўнай вышыні.
Зімой клён і ліпку
Засьцілае сьнег,
А мароз знаходзіць
Там сабе начлег.
Летам клён і ліпку
Зелень адзяе,
Сонца й вецер гулі
Заводзяць свае.
Людзі й тут па свойму
Нейкі знак знашлі:
Людзкія назовы
Дзераўцам далі.

XIII

Ад гэтай прыгоды
Шмат гадоў прашло,
Непамяці зельлем
Шмат што зарасло.
Засталіся толькі
Ў думках з году ў год
Крыўды, што ў час гэты
Выцярпеў народ.
З дзедаў на унукаў,
З бацькоў на дзяцей
Ланцугом пляцецца,
Што было даўней.

І гэта здарэньне,
Сьпісанае вам,
Расказаў мне так-жа
Стары дзед Адам.
Вам яшчэ цікава,
Як век дажылі
Той Тамаш і пэн той
На гэтай зямлі.

XIV

Тамаша ў кайданы
Закулі ў той час
І ў Сібір саслалі,
Там ён бедны згас.
Доўга цягаў тачку
Пад звон ланцугоў
І памёр далёка
Ад родных кутко̆ў.
Пан-жа, от, вядома,
Як і кожны пан,
Панаваў час нейкі,
Цёнгле сыт і п'ян.
Пасьля ўсё-ж са злосьці
Павесіўсіўся ён,
Як на зямлі нашай
Мінуўся мінуўся прыгон.
Палац стаіць пусткай,
Жыць няма ў ім як,—
Здаецца ў ім здаюцца,
Быццам помсты знак.

---

Сяргей Дарожны.

* * *

Сінія завеі, белая зіма
Клічу дарагую, дарагой няма...

Адцьвіла каханая, адцьвіла сама
Толькі месяц вечна пад кустамі хмар

Любая хадзіла раніцаю ў поле
Любая пяяла: „ясныя саколы"

Ой пяяла голасна толькі ўжо ня мне
Цярусіўся з месяцу ў поле срэбны сьнег,

. . . . . . . .
. . . . . . . .

Месяцу і сёньня я—падарожны брат
Разам нам напісана: край свой вартаваць'

Як і ён адзін я, на пясок, ці жвір
Бельлю рассыпаю свой сягоньня зірк.

Сінія завеі, у песьні многа слоў,
Клічу дарагую, пошчак аднясло...

У срэбраных завеях белыя палі,
Голас мой асыпаўся на ўзгорках ніў.

* * *

За вакном тры клёны і вялізны месяц
Крой ты мой бярозавы, край у сьнежных
песьнях

Многа ў сэрцы радасьці. многа і журбы,
Не такі я сёньня. не такі як быў.

Усё здаецца іншым у другой красе,
Што расьцьвіло песьняю, сумам адцьвіц е

Ад таго мне любая, адцьвіла даўно..,
Многа ў песьні шчырасьці, многа у песьні
слоў.

Менск, 30 каетрычніка, 1926 г.

Янка Бор.

## Восень

Сонца погляд сіратлівы
На зямлю свой апусьціла,
Дзе на полі цьмяна—шэрым.
Павуцінкі срэбрам белым
разьляглiся,
распаўзьліся.

Шум лістоў пажоўкла—сумных,
Для сялянскіх поўных гумнаў,
Расплываецца плаклівы,
А ў высі ясна сіняй
Адлятаюць гусі ў вырай.

Крык іх сумны і працяжны
Аб зіме халоднай кажа.
Рунь зяленіцца яскрава;
А на поплавах—атава
у пракосах ссохла,
зьвяла.

Сэрца хочацца пацешыць—
Засьпяваеш—песьня рэхам
Адбіваецца ў дубровах
У галінках дрэваў голых,
Рэхам звонкім, як сталёвым.

А як хмары-валацуй
К сабе неба прыгалубяць,
Тады дождж буйны, халодны
Мочыць поле, звоніць ў вокны
звоніць звонка
звоніць моцна.

Язэп Пушча

* . *

Любыя, мілыя ліпы,
Цьвецень сіньзвонных нізін!
Квіліцца ласкавы ліпень,
шумы калосяць азім.

Дні загарэлага лета,—
сочыцца сонца з суніц.
Далі апрысканы цьветам,
Далі схіліліся ніц.

Цісну лістоў я далоні,
золата сыплюць аўсы.
Ласкі даліны зялёнай,
ласкі адвечнай красы!

* * *

Ой за лугам, лесам разьвясёлая зара
абуджала маладзіцу, абуджала рань.

— Расьцьвітай лілеяй, расьцьвітай мая
краса,
вусны хай умые бель-сьцюдзёная раса.

Зьвяў зары румянец у пахмельлі залатым,
іскрамі ільсьняцца масянжовыя лісты.

Зрок смуглява сьвежы у крыніцы люст-
рыць рань,—
яна вышла з сонцам, вышла з ясным на
курган.

Галаву схіліла—аддала зямны паклон,—
ветліва ўсьміхнуўся малажавы клён.

З. Бядуля

# На дарозе

*(Адрывак з апавяданьня „Портфэль“).*

Зляжы пальцы ў кружок, настаў перад вокам, як шкелка з акуляр, і зірні.

Усё вакол нібы намалявана:

Лес стромкі, густы застыўшымі грамадамі кучаравіцца на краі мутнаватай бляхі неба.

Водаль шызымі посьцілкамі раскіданы няпрывабныя плямніны васеньняга поля.

З боку, як вылупкі вялізнаг а казачнага птуха, прыгарнулася некалькі хатак, атрушаных зьверху брудчаватай саломай.

Над хаткамі кружацца вароны—шэра-цёмнага колёру, аблезлыя, нібы з дрэва выразаныя. Драўлянымі галасамі каркаюць яны, апускаючыся на зямлю, шукаючы спажывы ў конскім гнаі на сьцежках.

На дарозе стаіць селянін. Такога часам можна бачыць на плякатах:

Вочы—вузенькія завостраныя, бліскучыя ільдзінкі. Барада—прыклеены жмуток пакульля. Чупрына—насунуты кавалак аўчыны. Яна брынзьлямі вісіць з пад старой барашкавай кучмы. Кажуронак—замызганы, у ранах рознага выгляду і памеру, з якіх вылазяць, як мышы, каўтуны сіваватай шэрсьці.

Дарога—прэрэзана каляінамі, патузгана і пакалечана калёсамі і падковамі, у глыбокіх выбоінах. Яна зьвязвае селяніна як вяроўкай з усім сьветам, далёк м нібы казкай ад гэтай глухой мясьціны.

Чаго-чаго ня бачыў тут стары за капу гадоў! Усё-усё запісана ў яго памяці, нібы выразана сцызорыкам на гладкай бярэзіне.

Дарога—яго газэта, кніга, унівэрсытэт, тэатр.

Ці ня розных бачыць ён тут падарожнікаў

Кожны па свайму баіць старому аб усім-тым, што на сьвеце дзеіцца. Кожны тлумачыць яму, як ідзе палепшаньне яго, селяніна, жыцьця. Кожны з іншага рэшата прасейвае сваю гутарку.

Стары зьбірае ўсе думкі людзкія, як жабрак скарынкі. Ён убірае іх у сябе, як сухое поле—сьвежы дожджык.

І цяпер селянін чакае, можа хто праедзе—можа што даведаецца... А то нуда, як моль, заела. Суседзі даўно ўжо надакучылі, як горкая цыбуліна. У кожным з з іх ён бачыць люстэрка і водгаласак самога сябе. Нос ад іх проста сам адварачваецца.

Стары наставіў вушы, схіліў галаву ў бок бязбрэжніцы дарожнай—і давай прыслухоўвацца да далёкіх гукаў і шуму, як фэльчар да хрыпу хворага.

Селяніна ахапіла вялікая смага—паслухаць стукоты сэрца ні-то блізкага, ні-то далёкага сьвету... Ён стаяў, як акамянелы. Ня рухаў ніводным пальцам--прыслухоўваўся.

Так стаяў доўга, наставіўшы вушы, як дзьве трубкі.

Нарэшце нешта ўлавіў:

Няясныя гукі людзкога голасу. Хлюпат конскіх ног па топкай грэблі. Рупатлівае чопканьне па грязі на адным месцы

Па старым твары між пісанінай глыбокіх зморшчын зацьвіла, расплылася ледзь прыкметная ўсьмешка. Соладзь пранікла ўсе яго жылкі і паджылкі. Няясныя гукі жывых істот здаваліся яму надзвычайнай, прыемнай музыкай, нявідочным концэртам з замурзаных васеньніх далячынь.

І ён не бяз шчасьця! трэба толькі ўмець лавіць гэтае шчасьце, як кемны паляўнічы ловіць дзічыну. Трэба глядзець, каб шчасьце ня выплывала спаміж пальцаў як вада.

Ня доўга разважаючы, стары пабрыў туды—на гукі і галасы.

Ногі, у прасторных гаспадарчых атопках, рухаліся лёгка і мерна. Нібы пэўным крокам за сахой дыбае чалавек.

З кожным крокам голас рос яму насустрач разам з золкасьцю васеньняга ветру. Сьцюжа прыставала да яго твару і рук драцяной вострай павуцінай, шчыпала за нос сталёвымі кручкамі.

Стары, мала на гэта зважаючы шыбаў наперад.

І расло перад ім яго шчасьце, выгадаванае, выпешчанае ў старых грудзёх, доўгачаканае, відавочна выпуклялася, як вялізны куст ярка-сьвежых апенак на патрэсканым карчы.

Спачатку ён пабачыў няясную плямку. Пасьля вырасаваўся конь, каламашка, чалавек на сядзеньні ў каламашцы, другі—пры кані.

Так часам у васьне паўстаюць вобразы—спачатку мутныя, неакрэсьленыя, а пасьля такія яркія, што доўгі час не забываюцца.

Ён падышоў блізка, як гаспадар, як уладар гэтай мясцоваcьці.

— Во то-та-ж—буркнуў ён сабе пад нос. Яму здавалася, што ён шапнуў вельмі ціха, але вышла так гулка аж-но чуваць было акол на сто крокаў.

— Во то-та-ж! перадразьніў яго фурман, чырвоны здаравяка гадоў пад трыццаць,—чаму грэблю ня правіце?

— А я тут адзін рукі пад яе падлажу, ці што!—адказаў стары цьвёрдым голасам.

Конь па бруха ўграз і ня мог выцягнуць каламашкі.

Стары гэтаму ня зьдзівіўся і застаўся вельмі спакойным. Ён бачыў такія прыгоды тысячы разоў. Ува ўсіх тутэйшых коняй ногі і бруха назаўсёды абрасьлі карой гразі. Гэта як бы іх плямённая адзнака.

Грэбля заўсёды такія кпіны ладзіць над падарожнікамі.

Фурман ляскаў па кані пугаўём, змарыўся, спацеў. Конь тузгаўся, рваўся, вочы крывёй наліліся, прысеў задам у балотнай кашы, як вялікі кот на падушцы. і ня мог выбрацца з топкага месца.

Тут стары ачухаўся:

— Гэй, чалавеча, ачмурэў, ці што?

— А што?—ажывіўся фурман.—Мо' паможаш? Ты вазьмі каня пад аброць, а я па ім—пугай!

— Э-гэ гэ э э! Дык ты тут першы раз едзеш, ці што? А калы навошта ляжаць—во! Гэта нашы струманты!

Стары паказаў на кучу жэрдак, што ляжалі водаль. Яны былі да паловы ў гразі—відаць спэцыяльна служылі да выцягваньня вазоў з балота.

Фурман стрэльнуў сабе закарузлым пальцам у лоб.

— Ах ты, чорт! Не дагадаўся!

Стары жыва ўзяўся за камандаваньне ў першыню:

— Вось трэба папрасіць дзядзьку, каб з воза вылез, ці што? А то каню цяжка.

„Дзядзька", які сядзеў на возе ціха, раптам заёрзаўся.

За яго загаварыў фурман:

— Ды яны запэцкаюцца ў гразі.

— Нічагуткі. Можна „іх" вынесьці з гэтай гразі, ці што!—зарупіўся стары і з захаванай няпрыязьню зірнуў у бок седака.

— Нет, нет, товарищи, что вы?!—запротэставаў „дзядзька" на возе.

— Так, як вы мой пасажыр,—загаварыў фурман да седака на „гарадзкой" мове,—я вас павінен даставіць сухім.

Пры гэтых словах фурман рашуча падышоў да каламашкі блізка. „Дзядзьку" відаць перaканаў просты довад фурмана, бо ён апіраючыся рукамі аб сядзеньне падняўся.

Фурман схапіў яго на рукі і вынес на сухое месца асьцярожна, нібы нёс вялізную шкляную бутыль.

„Пасажыр" быў гадоў пад сорак. Круглы твар каляраваўся бліскучым сінім дымком у тых мясцох, дзе шмаравалі па ім брытвай. Вызначаліся пульхныя губы.

Вочы былі зацягнуты павалокай, лянівай рахманасьці. У руцэ ён трымаўналюсенькі бліскучы портфэль.

Ён стаяў на сухім месцы, як на востраве ў моры, з нудлівасьцю паглядаючы навакол.

Селянін і фурман падсунулі калы пад каламашку, прыпаднялі яе, гікнулі каню разы два—і ён лёгка выбраўся з гразкага месца.

Слова „пасажыр", якое стары чуў мабыць першы раз у жыцьці, глыбока ўрэзалася яму ў памяць. А тлумачыць незразумелыя словы ён меў вялікі спрыт:

— Значыць—па са-жыр!

У думках стары паўтарыў гэта чароўнае слова мо' дваццаць разоў, пакуль не дабраўся да яго „праўдзівага" значэньня.

— Пасе жыр! Гадуе жыр! Лоўка! Ці зьявіліся ў нас ужо такога роду людзі? ці што? Панок—ня йначай!

Селянін зірнуў з асаблівай зацікаўленасьцю на „пасажыра". Убачыўшы ў яго руцэ портфэль—супакоіўся.

Людзей з портфэлямі ён за апошнія гады наглядзіўся шмат, бо часта хадзіў на сходы ў сельсавет. Гэтыя людзі самыя цікавыя штукі гавораць. Такія дзікавінныя мудроныя словы сыпляць, ажна галава хадыром ходзіць!

Старому заўсёды здавалася, што ўвесь спрыт іх гугарак, уся моц ікніх дзеяў зьвязана з портфэлямі, як лапці з аборамі.

Нагледзіўся ёй іх за апошнія гады многа —і людзей і портфэляў: рознага выгляду, рознага гатунку і рознага колеру.

Усе яны (людзі, а не портфэлі) па рознаму гаварылі.

Стары давай націскаць кнопкі сваёй памяці і пры кожным націску выскакваў чалавек (і портфэль).

Гаварылі яны аб такім жыцьці, аб якім дзяды калісьці толькі ў байках чулі. Селянін пачаў лічыць па пальцах:

У начы будзе сьветла, як у дзень — «лектраф'скацыя». Аб такіх жар-птухах, як быў малым яшчэ ад бабулі чуў.

Самалёты будуць людзей насіць над воблакамі—і Кашчэй чараўнік такі ў байцы ёсьць.

Нейкія «трарахтары» будуць поле араць, а селянін толькі паглядай, ды пагульвай, ды люльку піпкай, таксама такія ведзьмары ў казках жывуць. Вось „аграмон" прывёз бы нам такі „тарарахтар"!

Часам чалавек з пяці скур вылязае, пакуль усё растлумачыць, як певень, змокне.

Старому прадстаўляецца—нібы бачыць ён, як гарадзкі „рараратай" скідае з сябе скуру за скурай, гаворачы свае мудроныя штукі.

Калі ён стары аднаго разу «разаратаю» гаварыў, што аб гэтым усім у вясковых байках даўно ўсё гаворыцца, дык той сказаў: „байкі байкамі, а тут усё гэта ў жыцьці, у супраўднасьці". Во!

Аднаго разу такі самы „разаратай" прывёз некалькі вазоў добрага насеньня, дык у таго ў портфэлі былі як раз ня мудроныя рэчы, а рукавіцы, кашуля і шапка.

А другі з гэтых самых, які малодшага сына селяніна ў нейкі рабфак забраў (дай яму, бог, здароўе, бо дзяцюк вучыцца!), дык зусім портфэля ня меў.

Думкі аб людзях і партфэлах мільганулі ў галаве селян'ня хутка — як маланка ў рабінавую ноч. Ён ад іх раптам адарваўся, гледзячы на „пасажыра“ з портфелям як на сваю новую кнігу, якую будзе сягоньня чытаць. Ён будзе ўдумвацца ў кожнае слова, будзе лавіць гук голасу, кожны рух рукі, жмураньне вачэй і ўсе мігапісы на твары гарадзкога чалавека. Тым людзям у сельсавеце заўсёды вершыў а на „пасажыра“ глядзеў з апаскай здаровы сялянскі інстынкт падсказваў старому, што гэтаму нельга верыць.

Стары пачаў сваім камэртонам спрабаваць новы інструмант:

— Пэўна, дзядзька заначуе ў нас?

— А пожалуй не помешает нам переночавать здесь!-- згадзіўся „пасажыр“ лагодным аксамітным тонам.

Фурманка пад'ехала да яго. Ён улез асьцярожна ў каламашку і фурман сьцебануў каня.

Сонца вырвалася з-пад ваўняных хмар і накасурылася загарэлым тварам на ваколіцу. Полымя заходу заяскравілася на вяршынах лесу, запаліла салому на хатках і вагністымі скурамі невядомых зьвяроў расьцілалася на няпрытульным полі.

Паветра паружавела, пералівалася празрыстым вінам ; але хутка золата заходу паблекла, пагасла.

Надышлі змрокі, васеньнія, нудныя. Пачалі брысьці па ваколіцы вільготным шэрым, маўклівым стадам.

Селянін шоў побач з каламажкой і вёў гутарку пакуль што толькі з фурманам. «Пасажыр» наставіў каўнер і скомкаўся ў сваім новым паліто. Селянін час--ад--часу з цікавасьцю касурыўся на профіль „пасажыра“.

Цямнела з кожнай хвілінай.

Каля сваёй хаты стары спыніў фурманку і адчыніў скрыпучыя вароты двара.

Фурман пакіраваў у браму.

На двор выскачыла старая гаспадыня.

— Гэй, маці, — заклапаціўся гаспадар,--запалі лучыну, ці што?

---

Уладзімер Жылка

## На постаці

Сумнай песьні голас,
Бы ў цудовым сьне...
Жыта сьпелы колас
Жняя хутка жне.
Сонца жар. Зьнямога.
Сьпёка, гарачыць...
Пачакай, нябога,
Крыху адпачынь!
Выпрастала сьпіну--
Шчок палае мак.
Стала на часіну
І замлела так.
Задуменьне пала
Пазірае ў даль.
Мо' аб чым згадала?
Мо' кагосьці жаль?
1924 г.

## Зімовае

Сьнег завея; вецер вее,
Круціць, дзьме.
Віхар гонкі, гучны, звонкі
У белай цьме
———
Комам ліпка, сьнегам сыпка
Сее сеў.
Носіць тайны, сьпеў адчайны
Сьмерці сьпеў
———
Я трывожны... Ў бездарожжы,
У бясьпуцьці.
Воля—вехаць Як даехаць?
Як дайсьці?
———
Сівер злосны, але млосна,
Міма імкне.
Дзе прыпынак, дзе спачынак?--
Блукаць мне.
———
Холад, сьцюжа... Сьцежка вужай
І размах.
Стыне сэрца, у паняверцы
Множыць жах...
Гнецца ніжай, к долу бліжай
Галава...
Лёс нямілы:—крыж пахілы
І жарства!
1923-24 г.

---

УЛАДІМЕР ЖЫЛКА—малады выдатны поэта, з заможнай Беларусі. Ён зьвуляецца сьведкаю нядолі сялян-Беларусаў пад панскім прыгонам. Затым у яго поэзіі і пераважаюць сумныя настрої. Цяпер Ул. Жылка жыве у Празе, дзе вучыцца у універсытэце

# На берагах Заходняй Дзьвіны

Полацак—адзін з старадаўніх беларускіх гарадоў. Радзіма першага беларускага друкара Францішкі Скарыны. Полацак раскінуўся ў прыгожай мясцовасьці на баразе ракі Заходняй Дзьвіны

У ваколіцах Полацку захавалася шмат помнікаў глыбокай старасьветчыны.



Від на Полацак з Заходняй Дзьвіны

Пятро Глебка

## Урывак з поэмы

Звалі дзяўчыну папросту Марыляй,—
як-жа іначай нам яе зваць?
Людзі нядаўна нейк мне гаварылі—
займае Марыля высокі пасад.

У вёсцы жыла і служыла ў Ігната...
Знаю цяжкае жыцьцё сіраты:
поле чужое, чужая і хата;
помню, ой, помню не раз ля ракі,

там, дзе ў закутку шумлівыя лозы
нізка схіляюць на воду гальлё,—
там пралівала гаручыя сьлёзы;
месца цяпер—урасло быльнягом.

Помню, ой, помню там, дзе у межах
жыта буйное лазою шуміць,—
жала Марыля і песьня-ў бязьмежжа
кволаю плыньню—скаргай душы.

Помню таксама, калі ў сінявокіх,
срэбрам-расою убраных лугох
сена касілі,--Марыля на воку
сьлёзы ўцірала асмуглай рукой.

Помню шчэ многа, толькі няварта
скаргі былыя ў душы закранаць—
сьлёзы і сьлёзы толькі не радасьць:
трэ' было пану і сеяць і жаць.

Хай вам раскажуць сялянскія хаты,
хай вам раскажуць шумлівыя лозы,—
колькі загінула сірат дзяўчатаў,
зьвяла у росквіце шоўкавых косаў?!

Вяла Марыля, як кветка адцьвіўшы,
горбіўся нізка да долу аж стан.
Толькі адзін раз ў жыцьцёвым зацішшы
сэрца успырснула сокам вясна.

Кузьма Чорны.

## Урывак з апавяданьня „Хвоі гавораць“.

Над шырокай зямлёй пахне восеньню і яснымі днямі дзьме густы вецер. І шумяць—шумяць кусты над глыбокадумнаю рэчкай...

Дарога пазарастала патаптанай травою, часамі з далёкіх узгоркаў імчыцца па ветру і асядае на яе пыл. Цяпер яна ад нядаўных дажджоў чыстая і ад сонца і ветру думна-вясёлая. На ёй ляжыць плуг а збоку я—ляжу на ветры, гляджу, як за кустамі шупшыны пасецца конь, і слухаю, як шуміць гальле маладых асін і бяроз. Адчуваецца, як пад імі прэсна пахне рэчка.

Сягоньня я зусім ня бачыў дзядзькі Язэпа. Цяпер ён ня так нудзіць, больш можа гаварыць аб Міхале—прывыкае патроху, што памёр ён.

Учора вечарам я таксама, як і раней, сядзеў з ім на прызьбе. Ен весялейшы быў і расказваў са сьмехам, як Астап Варывончык леташняй зімою пералазіў ноччу п'яны цераз калодзезь, думаючы, што гэта пералаз. Пералез і скочыў „на другі бок плоту“ і чуць ня зьмёрз у калодзезі, пакуль яго адтуль выцягнулі. Гэтую гісторую я многа раз чуў ад яго-ж, і ён сам гэта ведаў, але гаварыў з вострымі слаўечкамі і смакаваў жартаўлівыя фразы...

Дося таксама хадзіла пад руку з студэнтам-практыкантам.

Ад гэтых думак нешта ўсю ноч і цяпер скрабае мяне за сэрца. Хочацца йсьці некуды, нешта рабіць важнае, нешта большае, чым ляжаць тут, на гэтай дарозе.

Я нэрвова ўсхватваюся й сам ня ведаю, для чаго, аглядаю нядаўна звораны мною загон.

Па ім спацыруюць вароны, нешта клюють і крычаць. Мне таксама хочацца крычаць і сьпяваць. Ва мне варушыцца напеў песьні:

Ды за таго шастака
Ды купіла мужыка...

Якая мне можа быць работа дома адвячоркам?

Я саджуся й думаю.

Далёка відзен Пятрусь Міхалінчык—за ворвае іржышча; ідзе ў вялікіх ботах за плугам, ківаючым наперад, пасьвіствае на ўсё поле, аж мне тут чутно — ад гэтага яму весела. Недзе за кустамі праяжджае Яўхім Стрыгун, я пазнаю яго па голасе— на каня яму ніколі ня трэба крычаць, а ён крычыць, крычыць так, што на ральлі трывожацца вароны.

Там недзе за кустамі, каля рэчкі ў дзядзькі Язэпа ляжыць сухая атава. Ня можа быць, каб Дося ня прышла скласьці яе ў копы. Успомніўшы пра гэта, я повен думак, што мне ёсьць чаго сядзець тут, на гэтай зялёнай дарозе, — вечарам яна ўсё роўна будзе з студэнтам.

Цяпер у мяне страшная нецярплівасьць. Я адцягаю пад воз плуг, зьбіраю лейцы і пасьля йду да дзядзькавае атавы. Там пуста, толькі ўсё-ж таксама чорады дзікіх птушак.

Повен расчараваньня, я йду назад. Дашоў да краю кустоў і бачу: маленькая й смуглявая йдзе Дося. Ідзе босая, у сінім, з белаю хустачкаю на густых чорных валасох.

**— Ваша атава зусім сухая,—гавару я.**

— Тата заўтра забіраць будзе.

Што мне ёй больш гаварыць? Седзячы вечарам з дзядзькам Язэпам і бачачы, як яна ходзіць з нейкім практыкантам, у мяне складаюцца ў галаве многалікія цытаты; толькі не цяпер гэта... Я ня ведаю, што мне больш ёй сказаць.

Мне страшна хочацца схваціць яе на рукі і імчаць некуды далёка, за сухую атаву, за бясконцнае поле. Імчаць, пакуль яна не заплюшчыць вачэй і не задрэмле. Тады я палажу яе на зямлю абвеянную вятрамі і выхаджаную людзьмі, буду глядзець на яе і тады ў мяне складуцца вялікія гімны..

Цяпер жа я маўчу і гляджу на яе твар.

— Чаго ты так глядзіш?

Твар яе роптам робіцца ружовым, і я адчуваю, што й яна таксама ня ведае, што гаварыць.

А можа ёй страшна гэта хочацца, каб я схваціў яе на рукі?!

У мяне ў галаве, у жылках пачынае стукаць кроў, і я ледзьве гавару:

— Ты доўга там будзеш?

— Атаву ў копы складу:

— Тады назад разам паедзем.

— Не, я пайду на той бок рэчкі, на хутары.

— Чаго?

— Да цёткі.

— Але-ж начаваць да дому прыдзеш?

Цяпер я знаю, што яна была зусім дзіця: ёй здавалася, што калі вечарам ходзіць яна з практыкантам, дык кожны на ват куст шэпча аб гэтым, закіды на гэта бачыла яна ў кожным, самым нявінным слове.

Яна яшчэ больш пачырванела й з нейкаю як-бы трохі крыўдай ці лёгкаю пагардаю сказала:

**—** Ну, а ты дзе будзеш сам начаваць!

Цяпер мне ўсё ясна. Тады-ж радасна пацямнела ў вачох і зьявіўся спакой: ідзі сабе, ідзі, любая, вечарам убачу цябе.

— Мне пара ехаць,—сказаў я.

— А мне пара йсьці.

І яна пашла... А я, едучы дадому, раз думаў:

„Добра, што яна ня едзе са мною—у мяне гразкія босыя ногі, запэцканыя палатняныя порткі й палатаная сарочка. Нядаўна яна вазіла гной і была адзета яшчэ горш, але-ж усё роўна, я не хачу быць такім каля яе“.

Уладзімер Дубоўка

# Урывак з мэлёдый „Наля“

Досыць каліне,
Досыць маліне
 у лузэ стаяці.
Тую каліну,
Тую маліну
 Птушкі склявалі.
 *(Народная песьня)*

II.

Агні гарацЬ, агні гарацЬ над краем,
а дні лятуць, а дні лятуць угрунь.
За што, за што нас доля пакарала,
парэзала на часткі дзьве зару?

Адна зара, ой зорка-заранiца!—
у літарах БССР цьвіце.
Другая ночы, ночы-начаніцы
дапамагае крыльлем шалясьцець.

Гараць агні, агні гараць ня меркнуць,
ня верне дзен анічыя рука.
Дык мо' таму сьмяецца месяц зьверху,
дык мо' таму ня варта наракаць?

Спрунжынім мускулы—расьце напорнасьць,
І размахнёмся—надыходзіць час.
Што будзе заўтра—ня было учора,
зацеплім зоры—хай пакуль сьвяча.

І зложыць крыльле начаніца сьціпла,
аднэй заільсьніцца зарой.
Або пясок на грудзі нам уссыпяць,
або да мэты прыдзем—вось зарок!

Шумі прасьцяг—у нецьвярозым шуме
я, нецьвярозым так-жа стаў даўно.
І кроў мая, ў адно з табой пульсуе
і вусны п'юць спрадвечнасьці віно.

Яно з лясоў, яно з глыбінь бяскрайніх—
Крыніцай, стромай крышыць берагі.
Пасьля—расой зьвіваецца ў каралі,
Зьвіваецца ў вянкі на дне далін.

На дне далін вянкі цьвітуць адвечна,
Істоту акрынічылі красой.
І чую—кволасьць іх лягла на плечы
і вецер запявае ў верасох.—

 Досыць крыніцы
 ў хвалях бруіцца
 пры сенажаці.

 Дні зіхацелі
 ў сонца-праменьні
 ў срэбранай шаце.

Ляцелі нізенька журавы,
Зварухнулі гольлійка верхавін.

Зварухнулі гольлійка верхавін,
Расьсявалі скаргі ў цьвет калін.

 Хто іх паберыць,
 ды ў гэты вечар,
 Хто, калі?

 Выйдзі на бераг,
 стань ля парэчак,
 ля калін.

Зьлятае лісьціййка на ваду,
А я-ж маё лецейка ці знайду?

Зьлятае лісьцiйка ды на мох,
А я-ж маё лецейка не ўсьцярог.

 Досыць крыніцы
 ў хвалях бруіцца
 пры сенажаці.

 Дні зіхацелі
 ў сонца праменьні,
 ў срэбранай шаце...

Агні гараць, гараць агні над краем,
А дні лятуць, а дні лятуць угрунь,
А мо' й мяне ты, доля, пакарала
І я ў мэлодыях жыцьця згару...

9/XII-25 г.



Паўлюк Трус

# З поэмы „Сірата Алеся“

VIII

Вецер ў гаі нагінае,
Дзьве асьнежныя бярозы..
А дзяўчынка маладая,
Ой, гадае пры дарозе.

Ды ўжо сонца ў цьвет бярозах,
Златы вянок хавае...
Гнуцца сосны пры дарозе,—
Стан дзяўчына нагінае.

Нагінае стан дзяўчына,
Там, дзе журацца каліны;
Дзе над соннаю раўнінай,
Выплыў месяц сьнежна-сіні...

І схіліўся над узгор'ем,
Выплыў чоўнам па-над ярам..
Белай чайкаю на ўзмор'і
Патануў у тонкіх хмарах!..

Патануў у пацалунках,
Смуглай ночы—чараўніцы.
Выткаў дзіўныя карункі,
Ў шумных вербах над крыніцай..

Я між вербаў, на майдане
Ў кволых подыхах вятрыні...
Цень мігаецца ў тумане,
Апаўночным, срэбна-сінім.

Можа з кайстраю хто блудзіць,
Можа сэрца надрывае?!
Ці ў крыві смылеюць грудзі,
Ці ў палёх дарог шукае?!..

. . . . . . . .

Косы чорныя да долу,
Расьпусьціла бель-дзяўчына.
Ды траву—трыпутнік кволы,
Пры істужцы каляіне;

Яна ў тайне засмучэньня,
Бярэ белымі зубамі...
Як хмурыны ў дзень асеньні,
Думкі-словы гоніць памяць:

— Ой трыпутнічак,
Трыпутнік!..
Зельле-зельляйка жывое...
Ты цьвіцеш,
Каля дарогі...
Дзе людзкія,
Ходзяць ногі.

Ты цьвіцеш,
Ды на паўмежку!.
Дзе бягуць,
Людзкія сьцежкі!..
А па сьцежках,
Бродзяць цені,—
Цені ў вобразах
Асеньніх...

Бродзяць цені..
Бродзяць людзі!..
Покуль сэрца
Не астудзяць!..
Покуль жыцьце
Тчэ усьмешкі;
Яны ўсе,
Шукаюць сьцежак!?

Ой трыпутнічак,
Трыпутнік!..
Зельле-зельляйка жывое!..
Ты цьвіцеш,
Ды пры дарогах,—
Зачаруй майго мілога!..

. . . . . .

Ветры плаваюць у полі,
Гнуцца сосны па-над ярам...
А яна...
Яна паволі,
Вырывае зельле-чары.

Вырывае руту зелень,
Ды сама,
З сабой гаворыць...
Дзе туман,
На травах зорных
Кужаль тонкі,
Шоўкам сьцеле,
Твар цалуе ў дакорах!..

І ў маўклівым задуменьні,
Яна йдзе туды,
Дзе вольна
Рэчка гордасьцю струменіць,
Коціць хвалі на прывольле.

А пад сьпевы,
Хваль падгорных,
Стан дзяўчына нагінае
У сукенку краскі горне,
Ды вяночкі завівае,

І ў тумане...
У паркалі...
У купальскую,

Ды ночку!.,
Вось адзін..
Другі на хвалях...
І плывуць... плывуць вяночкі...

Ды ня сходзяцца вяночкі,
Адыходзяць даляй...
Даляй...

. . . .

І глядзяць,
Журботна вочкі
Пад зьлязінкамі ў каралях.

Яны капаюць на камень,
Завіваюцца ў дасэні...
Дзе на твані,
Бродзяць цені,—
Бродзяць зданьню пад рукамі.

Потым поступам нясьмелым
Рукі сьцелюцца па плыні...
Ды ў збаночак,
Люстра—белы..
Бяруць воду з багавіньня.

Азірнулася...
Вяночкі...
Патанулі ў хвалях с'ніх...
Толькі пацеркі—кружочкі,
Скалыхнуліся на плыні.

1925 г.

**Р. Шукевіч—Трацьцякоў**

# Мы хутка пабачымся!

## (З ўспамінаў)

Прывабна-прыгожа Баварыя.

Блаславенным краем справядліва назваў яе ў „портрэце імпэратара" Гауф.

Але і яго яскравыя малюнкі робяцца змроклымі перад жывою прыгожасьцю верхняя-баварскае прыроды..

...Не за сьцюдзёныя, цёмныя, горныя альпійскія вазёры Шлірзээ і Кёнігзээ, з дзікімі берагамі, з казачна-чароўнымі палацамі—параджэньнем фантазіі паўбязумнага караля-архітэктара Людвіга 2-га, не за сенажаці ў гарах і звонкія песьні ў далінах, не за пякельнае пламя карб тных фабрык і аглушаючы грукат экскаватараў, не за страданьні ў часе ўцёкаў, нават не за арышты, біўвакі, склепы і засьценкі катаржнага Траунштэйна—люблю ўспамінаць я Баварыю.

За вясну баварскае рэволюцыі—лістапад 1918 г.—люблю я яе.

Паляцелі ў гэтыя дні ў гразь пагоны і какарды з верных каралеўскіх слуг. зваліўся з трону і сам стары кароль Людвіг.

За тое шырока расчыніўся брамы лягераў военнапалонных, у братэрскую сям'ю зьліліся нядаўныя пераможцы і пераможаныя. Салдацкая рада баварцаў лягеру Пухгэйму, у асобе фэльдфэ'эля Вэрмана паведамляла нашу лягерную Раду аб сваіх пачынаньнях. У цяжкую мінуту (напр., разброеньне ў Пазінгу эшалону прусакоў, які атакаваў Мюнхен) працавалі дружна...

Напоўнілі мы горад, наваднілі музэі, кіно, тэатры.

Косіцца на нас афіцэрства без пагонаў, перапужана шарахаюцца ўвабраныя дамы, а мы, хваля за хваляй, нясёмся, расьцякаемся па асфальтах Мюнхэну. Стаўпіліся ў „Гофтэатэр'ы". Задуменны, нават у распале красамоўства, зьвяртаецца да нас з прамовай прэзыдэнт Баварскай рэспублікі Курт Эйснэр („незалежны", пасьля забіты монархістымі).

Шчыра ліюцца словы з вуснаў высокага, чорна-барадага, з сівізною, прэзыдэнта.

Бясконцай чарадой цягнуцца за ім на трыбуну прамоўцы з натоўпу белыя, жоўтыя, чорныя. Палкага француза, смуглага італьянца зьмяняюць халодны ангелец, амэрыканец, прыгожага араба, індуса ў цюрбане, сенегальскага нэгра—падтрымліваюць доўгі „братушка", стомлены стары серб; рыжыя, смуглыя у шырокаполых капялюшах португальцы, маленькія румыны і г. д.

Бясконцай чарадой цягнуцца на трыбуну белыя, жоўтыя, чорныя прамоўцы.

На дзесятку моваў ліюцца шчырыя, запальваючыя прамовы. Іскра за іскрай электрызуюць натоўп, прарываюцца ў громе воплескаў.

Часта незразумела мова прамоўцы, але „імпэрыялізм", „капіталізм" ўсім нам вядомы, на ўласнай скуры адчулі мы яго „прыемнасьць", інтонацыі, мігі зразумелы...

Шмат было казана прамоваў, але, да аднаго звадзіліся яны:—пакуль існуе на

зямлі капіталізм,—будуць імпэрыялістычныя войны, будуць зносіць свой няшчасны лёс ваеннапалонныя.

І шматтысячны рознамоўны сход пакляўся, што зьвярнуўшыся дадому, пераможа капіталізм, або памрэ ў барацьбе з ім.

І каля я даведваюся аб паўстаньні француcкага флёту, аб забастоўках у Нямеччыне, Англіі і Амэрыцы, крывавых паўстаньнях чорнаскурых у Паўднёвай Афрыцы, хваляваньнях у „краі цудаў“—Індыі, я ўспамінаю аб гэтай клятьбе.

Шмат з тых, што пакляліся, пакутуюць у капіталістычных засьценках, нямала іх палягло ў барацьбе за Савецкую Баварыю, на чырвоных фронтах Савецкай Расіі.

Але нямала і засталося.

І калі закрасуюцца на Захадзе чырвоныя сьцягі—зародзяцца новыя Савецкія Рэспублікі,—сябры Адзінай Сусьветнай Савецкай Рэспублікі,—мы яшчэ пабачымся.

Мы хутка пабачымся!

# Сатыра і гумар

К. Крапіва

## Пра цыгана і кабылу

Аб тым ня мала ўжо трубілі,
Што кожны з цыганоў сваю кабылу хваліць,
А на чужую горы валіць...
Ну, што-ж—ня езьдзіць цыгану на хваленай кабыле
Яму—прадаць ды зарабіць.
Аб бяссумленасьці яго ня будзем мы трубіць,
Бо разумеем цыганоў,
Не разумеем толькі тых паноў
Якія без падставы,
А проста так, для таннай славы
Сваёю хваляцца кабылай
(Іх асабліва шмат сярод пісак).
Другая кляча
На трох нагах, бывае, скача,
А ён крычыць:
«Глядзеце—весь рысак!
Якое хараство! Якая шпаркасьць! Сіла»!
Затанаваўшыся ня бачыць ён,
Што хмара кружыцца варон,
Што карканьнем вітаюць падлу госьці,
Што кляча ўся ў каросьце.
Бязногая і туз якісьці на баку;
Так языком датуль ён чэша,
Пакуль ня пойдзе пеша,
«Надгробнае» адпеўшы «рысаку».
Перш, чымся з пахвальбой імкнуцца недзе,
Ня шкодзіць паглядзець, на чым з нас кожны едзе.

М. Горны

## „Цар і Бог“

*Цар—ў зямлі, на „небе“—бог.*
*Да шчасьця нам дарога.*
*Толькі ўбачыў я на днёх*
*І цара, і бога.*

* * *

*Старшыня нашы—Казярог,*
*Учора ў сельсавеце*
*Закрычаў:—Я цар і бог,*
*Чортовы вы дзеці!*

* * *

*І памысьліць тут ня мог*
*Малы альбо стары,*
*Што хаваўся цар і бог*
*У гэтай сытай хары.*



# Новыя кнігі.

## Выдавецкая хроніка

Скончаны друкам і выйдуць гэтымі днямі новыя падручнікі: 1. прафэсара Бузука—«Асновы мовазнаўства», 2. Дзяржынскага.—«Выпісы з беларускае літаратуры» ч. ІІ-ая, 3. М. Гарэцкага,—«Гісторыя беларускае літаратуры». Апошні падручнік, хоць і выходзіць паўторным выданьнем, але значна перапрацаваны і зьмяшчае многа новага матар'ялу аб маладых беларускіх пісьменьніках.

З мастацкай літаратуры—«Хвоі гавораць»—К. Чорнага.

З мастацкіх твораў вышлі у продаж: 1. «Пачуцьці» Кузьмы Чорнага.

У друку знаходзіцца зборнік апавяданьняў Тараса Гушчы (Якуба Коласа пад назвай «На прасторах жыцьця». Зборнік выйдзе к моманту сьвяткаваньня 20-ці гадовага юбілею літаратурнай творчасьці Коласа.

Падрыхтаваны да друку: 1. Збор твораў Гальвача—«Драбязі жыцьця», 2. Збор вершаў Труса «Ветры буйныя», 3, Збор вершаў Чарнушэвіча «Дзіва» 4. Збор лірычных вершаў А. Вольнага „Табе“.

---

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Рэдакцыя атрымоўвае шмат вершаў, апавяданьняў, якія прысылаюцца з вёсак.

Значная частка прысланых твораў друкуецца на старонках нашай газэты. Рэшта, дзеля слабай апрацаванасьці, а часам—зусім дрэнная,—застаецца нявыдрукаванай.

Час ад часу, рэдакцыя будзе у паштовай скрынцы даваць адказ аўтарам нявыдрукаваных твораў. Прычым, на зусім няўдалыя творы будзе адказ—«Друкавацца ня будуць».

ГАННЕ БРЭГМАН. Сшытак запісаў народных песень перадаем у Фольклерную Камісію Інстытуту Беларускай Культуры (Менск, Рэвалюцыйная, 21). Калі у вас есьць новыя матар'ялы—накіроўвайце іх у Інстытут (перасылка дармовая).

І КАЗЛОВІЧУ. Верш «Ведзьма в навата» пасылаем як матэр'ял у Фольклерную Камісію. У далейшым радзім вам падобныя забабоны запісваць літаральна і накіроўваць у камісію самастойна.

К. ШАВЕЛЮ. Верш «Адкуль узяліся прошчы» пасланы у Фольклерную Камісію. Прачытайце адказы двум папярэднім таварышам. Рэшту вершаў друкаваць ня будзем.

С. БАГУНУ. Верш «Ткальле» надрукавалі. Калі будзеце слаць новыя, дадавайце да вершаў тлумачэньне тых мясцовых слоў, якія спатыкаюцца у іх.

ЗОСІ ПЯТРОЎСКАЙ. «Песьню жнала» друкаваць ня будзем. Але вы не спыняйцеся працаваць і прысылайце нам свае новыя творы.

Я. РАТКЕВІЧУ Верш «Жалаба каровы на гаспадара» друкаваць ня будзем, бо падобны верш напісаны раней за вас Крапівой.

Х. ПАЎЛОЎСКАМУ. Ваш верш «Хто я» нагадвае некаторыя вершы Янкі Купалы («Мужык» і інш.) Дрэннага у гэтым нічога няма—павучыцца у вялікага поэты ніколі ня шкодзіць. Але старайцеся працаваць самастойна. Прысылайце новыя вершы.

ПРАХАДЗЯШЧАМУ Р. С. «Слаўную вечарынку» друкаваць ня будзем. У такіх выпадках пішэце допісы, а ня вершы. Што тычыцца агульнай парады дык павінны сказаць шчыра: канцылярская праца, якой вы займаецеся, паклала свой адбітак і на вашу творчасьць. Дзеля гэтага яна занадта «протокольная».

В. КАЗЛОЎСКАМУ. Вы залішне захапіліся вобразамі, якія прыводзяць вас да недарэчнага. Напрыклад,—

...У выбоіны цеплай душы
Выдівала ты крыўду сваю...
або:
.. Скачэце ж калесы па рэйках
Пад выбрыкі дынамо-машын...

Дынамо машына бывае на рэйках тады, калі яе вязуць на месца прызначэньня і ніякімі выбрыкамі яна наогул не займаецца.

Друкаваць ня будзем.

А. НАРКЕВІЧУ Вашу просьбу:
Крапіва, Купала добра знаюць
Мужыцкі нораў і звычк.
Няхай яны таксама скажуць
«Чаму гарэлку п'е мужык»—
Перадаем па адрасу.

Што датычыць вашых твораў, то друкаваць іх ня будзем. Пачытайце творы вашых поэтаў і пісьменьнікаў, гэта дапаможа вам лепш апрацоўваць свае творы.

ЦЫБУЛІ: «Дзьве кумы» і «Не сварыся Марыся»—нават ня допісы, ня тое што вершы. Сапраўды, узяць зьмест апошняга вашага «стиха».—Кабета лаецца з пастухом, што ен зараньня выганяе жывёлу у поле. Каму гэта цікава?

1. Я. ЦЫБУЛІ (Рудзенск). Вершы па Расійску—накіроўвайце у літаратурную організацыю «Звеньне».

Што тычыцца прысланага вершу, дык думаем, што ен да друку наогул не падыходзіць. Пачытайце самі.

...С тобою прошлою зимой
Сошлись мы в шумном маскараде
И я безумно полюбил
Тебя в таинственном наряде..

Хто гэта у вас у Рудзенску маскарады ладзіць?! Займецеся лепш па спэцыяльнасьці, бо «знойная пылкая страсть», з такім канцом як вашым «стихе», можа давесьці да аліментаў.

М. ВОГУШУ. «Аб жыцьці і сьмерці п'яніцы» друкаваць ня будзем Першы недахоп—расцягнутасьць поэмы, другі— слабая апрацоўка ма-

тар'ялау. Трэці—насучасны падыход да тэмы (апісаньне карчмарства і г. д.)

Р. БЯЖКУ. «Беларускія межы» друкаваць ня будзем, але прысылайце новыя свае творы, па магчымасьці—некалькі разам. Тады мы здолеем атрымаць больш поўнае уражаньне. Магчыма дзе-што й надрукуем.

Р. БЕРАЗІНСКАЙ. Вершы атрымалі. Адказ далі асобным лістом.

Зьм. ЖЫТКЕВІЧУ. Ад вас можна вымагаць большага, чым ад другіх.

Першая рада—сачыце за чыстатой мовы, словы ужывайце абдумана.

А то—трапляюцца недарэчнасьці.

Так, у вас—«цягнік імноу у даль НЯСЕЦЦА». А вы пэўна чулі, што НЯСЕЦЦА курыца, гусь—наогул птушка. Па сэнсу трэба было б сказаць «імчыцца».

Верш «Ты ня лезь» вельмі адцягнены ад жыцьця. Старайцеся, каб вобразы, якія вы ужываеце, былі больш зразумелымі і жыцьцёвымі.

Я. БЕРАЗОУСКАМУ. Прысланы вамі верш да друку не падыходзіць. Прышліце некалькі разам, каб мы мелі магчымасьць зрабіць тыя ці іншыя вывады аб вашай творчасьці наогул.

В. Ламаку, Камару, А. Багуну, Я. Баравіку, П. Быкоўскаму, А. Панцялеевaму, П. Пісеньковаму.—Друкаваць вашых вершаў ня будзем. Апісаньне у іх можна было б скарыстаць, каб вы своечасна прыслалі нам звычайныя допісы.

Паўлюку В., П. Боршніку, С. Пчолку, Я. Пагоўскаму, А. Нічыпараваму, Р. Патроўскаму (Зарэцкаму), К. Буланку, В. Іванаваму, А. Крушынe, С. Лахадзіеўскаму, П. Гінтаўту, Ю. Лявонваму, А. Крэжеву, К. Дударьваму, А. Фрундоваму, Сікорскаму, В. Гатубовічу, С. Мурашку, Альховічу, М. Дубраўцу, А. Васковаму (Пятр.), Я. Лашкевічу, R. Козіку—Вашых вершаў друкаваць ня будзем.

Туміловічу, П Трусу, В. Мараковаму, А. Звонаку,—вашы вершы рэдакцыя ня выдрукавала з прычыны іхніх упадніцкіх тэндэнцый. Матэр'ялы перададзены тав. М. Чароту, у якога вы іх і можаце атрымаць. Усеж надалей запрашаем вас прысылаць новыя вершы.




Дом па Савецкай вуліце у Менску, дзе ў 1898 годзе адбыўся першы з'езд большавікоў.

Галоўлітбел № 21629. Адказны рэдактар Шукэвіч-Траццякоў.